БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

11 жніўня 1994 г.
Чацвер
№ 87 (13804)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года


Малюе Віктар ДУБОВІК



## Кур'ер "ЧЗ"



Днямі адбылася сустрэча прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з галоўнымі рэдактарамі рэспубліканскіх газет і часопісаў.

Адбыўся шчыры зацікаўлены дыялог па пытаннях фарміравання інфармацыйнай прасторы Беларусі, прыярытэтных напрамках развіцця прэсы, яе дэмакратызацыі, а таксама аб фінансавым становішчы выданняў.

Адзначаючы складанасць эканамічнага становішча Беларусі, прэзідэнт падкрэсліў важнасць узаемадзеяння з прэсай, яе ролі ў пабудове дзяржаўнасці Беларусі, суверэнітэту, абароне гонару як прэзідэнта, так у яго асобе і рэспублікі.

Адметна тое, і гэта неаднаразова падкрэслівалася, што прэзідэнт гатоў да пастаяннага дыялогу з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, іх разумнай падтрымкі як фінансавай, так і новых пачынанняў, што б дапамагала ў гэты цяжкі час выданням зарабляць грошы. Аляксандр Лукашэнка з разуменнем аднёсся і падтрымаў ідэю стварэння прэс-банка, акцыянерамі якога маглі б стаць сродкі масавай інфармацыі, і які б мог адыгрываць вялікую ролю ў станаўленні дэмакратычнай, незалежнай ад дзяржавы, прэсы.

У заканчэнне Аляксандр Лукашэнка прапанаваў стварыць з галоўных рэдактараў групу прадстаўнікоў для выпрацоўкі дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да сродкаў масавай інфармацыі.

### Што ў кішэні прэзідэнта?

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прадставіў дэкларацыю аб сваіх даходах для публікацыі яе ў сродках масавай інфармацыі.*

Як вынікае з дэкларацыі, прэзідэнт не мае ўласнасці ў выглядзе прадпрыемстваў, жылых памяшканняў і іншай нерухомай маёмасці, зямельных участкаў. З красавіка 1985 года сям'я Лукашэнкі жыве ў пасёлку Рыжкавічы Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці ў службовым доме, карысная плошча якога — 55 квадратных метраў, з надворнымі пабудовамі і прысядзібным участкам 0,25 гектара. На час работы на пасадзе прэзідэнта Рэспублікі Беларусь яму прадастаўлена службовая рэзідэнцыя ў Мінску.

Грашовы ўклад прэзідэнта ў Шклоўскім раённым аддзяленні ашчаднага банка складае 16 тысяч 64 рублі і 21 капейку. Укладаў у іншых банках, акцый і іншых каштоўных папер прэзідэнт не мае, таксама як не мае сваёй долі ў статутных фондах суб'ектаў гаспадарання. Наяўныя сродкі прэзідэнта не перавышаюць межаў заработнай платы, якая з мая па ліпень 1994 года склала 1602631 рубель. Іншых крыніц даходаў, якія падлягаюць падаткаабкладанню, прэзідэнт не мае.

Прадстаўляючы дэкларацыю аб сваіх даходах, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што ўласнасць і даходы прэзідэнта, іншых вышэйшых службовых асоб дзяржавы будуць заўсёды даступныя для кантролю, а публікацыя гэтай дэкларацыі дае права любым грамадскім аб'яднанням, партыям, прыватным асобам праверыць праўдзівасць прадстаўленых звестак.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Сімвал духоўнага адраджэння

*"Упершыню ў нашай рэспубліцы будзе адзначацца Дзень беларускага пісьменства і друку. Сёлета ён выпадае на 4 верасня", — паведаміў журналістам Анатоль Бутэвіч, міністр культуры і друку.*

— Мы маем намер святкаванне Дня пісьменства і друку зрабіць агульнанародным сімвалам духоўнага адраджэння Беларусі, — сказаў Анатоль Іванавіч. — Ва ўсіх славянскіх народаў ёсць такія ўрачыстасці. Цяпер і ў нашай краіне штогод у першы тыдзень верасня будзе праводзіцца гэта свята.

Першай сталіцай народнай урачыстасці будзе старажытны Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці і культуры, горад, неразрыўна звязаны з імёнамі асветніцы Ефрасінні Полацкай і першадрукара Францыска Скарыны. У далейшым сталіца свята будзе мяняцца.

— Цяперашнія мерапрыемствы, прысвечаныя Дню пісьменства і друку, будуць праводзіцца па ўсёй краіне на працягу тыдня: з 28 жніўня па 4 верасня, — удакладніў А.Бутэвіч. — Яны пройдуць пад знакам першых урокаў, лекцый, семінараў па тэмах: "Пісьменства і друк Беларусі", "Крыніца культуры і духоўнасці народа".

У рамках святочнага тыдня адбудзецца і навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святыняў". Яна пройдзе па старажытных цэнтрах беларускай культуры— Навагрудку, Нясвіжы, Тураву, Оршы да Полацка. А асвеціць такі няблізкі шлях лампадка са святым агнём ад труны Гасподняй, які запалены ў 1992 годзе ў Іерусаліме і захоўваецца ў Свята-Духавым Кафедральным Саборы ў Мінску. Затым лампадка будзе знаходзіцца ў жаночым манастыры ля мошчаў Вялікай Ефрасінні Полацкай, заступніцы Беларусі.

Свята пісьменнікаў, журналістаў, выдаўцоў і паліграфістаў плануецца адкрыць у Мінску ўрачыстым сходам 2 верасня ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры Беларусі. Тут пройдзе ўручэнне дзяржаўных узнагарод творчым работнікам. Адбудзецца святочны канцэрт майстроў мастацтваў. Апагеем свята будзе 4 верасня мітынг у Полацку, куды запрошаны прадстаўнікі беларускай дыяспары з іншых краін свету, а таксама замежныя госці.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### Трывожнае "лідэрства"

*Смаргонскі райвыканкам падвёў вынікі працы раёна за першае паўгоддзе 1994 года. Зафіксаваны спад вытворчасці амаль на трэць вышэй, чым у студзені–чэрвені мінулага года. Больш чым на 40 працэнтаў знізілася вытворчасць тавараў народнага спажывання.*

Сумна, але ў "лідэрах" тут аказаліся нават вядомыя ўсёй рэспубліцы мясцовы камбікормавы і Сольскі завод для сушкі агародніны.

**Павел МЯГКОЎ.**

### Гарым ... і жартуем

*Учарашняя ноч абавязкова запомніцца мінчанам. Нарэшце пайшоў такі доўгачаканы і споры дождж. Нібыта дзеці, забыўшыся пра сон, мы радаваліся жаданай вільгаці. Але, мусіць, самыя шчаслівыя былі ў гэты час пажарныя, якіх літаральна замучыла панаваўшая апошнія паўтара месяца спёка. Як адзначыў намеснік начальніка атрада ваенізаванай пажарнай службы Першамайскага раёна г.Мінска Уладзімір Гарэлікаў, яго падначаленыя працавалі ў гэты час на мяжы магчымага. Тушылі палаючыя кватэры і падвалы, сметнікі і траву. 73 выезды толькі за ліпень.*

Шмат бачылі гэтыя людзі, і здзівіць іх цяжка. Але даводзіцца здзіўляцца людской бесклапотнасці. У такую спёку жыхары Уручча, напрыклад, літаральна захварэлі на забыўлівасць — перасталі выключаць электрапліты. Ці такое вось назіранне. Нягледзячы на значную работу раённай інспекцыі дзяржнагляду па прафілактыцы пажараў, на прынятае Мінгарвыканкамам палажэнне аб папярэджанні надзвычайных сітуацый у сувязі з гарачым надвор'ем, згодна з якім за курэнне ў лесе можна атрымаць 50 тысяч рублёў штрафу, а верхняя планка спагнання дасягае аж 5 мільёнаў рублёў, многія бяздумна паводзяць сябе ў лесе, у зонах адпачынку. Бывалі дні, калі пажарным даводзілася па некалькі разоў выязджаць на тушэнне травы, лясных масіваў. І яшчэ хацелася сказаць пра адну акалічнасць. Не змяншаецца колькасць "жартаўнікоў", якія звоняць па тэлефоне 01. У.Гарэлікаў назваў такую лічбу. У мінулым месяцы 25 выездаў былі дарэмнымі.

Небяспека ўзнікнення пажараў застаецца. Будзем памятаць пра гэта.

**Вера ШЧЭЦІНА.**

### Курсы валют на 10 жніўня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 26400 | 27200 | 16600 | 17100 |
| "Прыор" | 26500 | 27000 | 16600 | 16950 |
| "Дукат" | 26300 | 27200 | 16500 | 17200 |



**Завершана рэканструкцыя унікальнага паркава-замкавага комплексу ў Нясвіжы. І вось цяпер вядомы замак Радзівілаў з яго цудоўным паркам, старажытнымі дрэвамі, чыстымі сажалкамі, лужкамі, чыгунным ліццём агароджаў, алеямі, скульптурамі і помнікамі паўстаў ва ўсёй прыгажосці такім, як сто гадоў таму. Зазззяўшы харастром, ажыла даўніна.**

**Нясвіж з яго старажытнымі помнікамі — касцёлам, гарадской ратушай, замкам Радзівілаў і прылягаючым да яго паркам — гонар, гістарычная рэліквія беларусаў. Тут у 1562 годзе Сымон Будны надрукаваў на беларускай мове свой "Катэхізіс", тут вучыліся вялікія паэты Уладзіслаў Сыракомля і Якуб Колас, пісьменнік Кузьма Чорны.**

**Раман КАБЯК, БЕЛІНФАРМ.**

ПАТРАБУЕЦЦА ДАПАМОГА

## Каб не згас факел надзеі!

Спешыал Алімпікс Інтэрнэшнл — сусветны рух інвалідаў, створаны сям'ёй Кенэдзі 25 гадоў, атрымаў развіццё больш чым у 120 краінах свету.

Дабрачынная праграма Спешыал Алімпікс заклікана ажыццяўляць спартыўна-аздараўленчыя мерапрыемствы, а таксама праводзіць спецыяльныя Алімпійскія гульні (летнія і зімовыя) праз кожныя 2 гады для дзяцей з недахопамі разумовага і фізічнага развіцця. Гэтыя мерапрыемствы дадуць ім магчымасць смялей увайсці ў грамадства ва ўмовах, пры якіх іх прымаюць, паважаюць і даюць магчымасць стаць карыснымі для гэтага грамадства.

Тры гады таму ў гэты рух уключылася і Беларусь. Заснавальнікамі Беларускага камітэта Спешыал Алімпікса з'яўляюцца Міністэрства адукацыі і замежнае прадпрыемства "Дынасты Юнівеселе" (ЗША). Спонсары яго — Беларускі фонд "Дзецям Чарнобыля", Беларускі дзіцячы фонд, таварыствы інвалідаў, сляпых, глухіх, Дзяржаўны камітэт па фізкультуры і спорту Рэспублікі Беларусь, Беларускі фонд міласэрнасці і здароўя, рэспубліканскі Цэнтр па экскурсіях і турызму, Мінская праваслаўная царква Аляксандра Неўскага і інш.

Беларускія дзеці-інваліды і дзеці з недахопамі разумовага і фізічнага развіцця пад кіраўніцтвам вопытных трэнераў і настаўнікаў фізічнай культуры займаюцца па 30 відах спорту. Яны спаборнічаюць спачатку ў школах, клубах сярод роўных сабе, затым выступаюць на раённых, гарадскіх, абласных спаборніцтвах, алімпіядах, фестывалях і толькі самыя моцныя прадстаўляюць свой горад і вобласць на рэспубліканскіх спаборніцтвах, якія арганізуе Беларускі камітэт Спешыал Алімпікс.

Нашы школьнікі-інваліды ўжо неаднаразова выступалі ў еўрапейскіх і еўраазіяцкіх турнірах, прымалі ўдзел у зімовых алімпійскіх гульнях у 1993 г. у Зальцбургу (Аўстрыя), якія арганізоўваў і праводзіў Спешыал Алімпікс Інтэрнэшнл. Яны заваявалі 52 залатыя, 12 сярэбраных і 15 бронзавых медалёў. Цяпер нашы спартсмены-інваліды рыхтуюцца да летніх Алімпійскіх гульняў, якія будуць праходзіць у г.Нью-Хевене ў ЗША у 1995 годзе, дзе выступяць у 7 відах спорту. Ужо вызначана дэлегацыя Рэспублікі Беларусь: 30 дзяўчынак і хлопчыкаў і 6 трэнераў.

У рэспубліцы 315,8 тысячы дзяцей-інвалідаў. Аб'яднаныя пад флагам Беларускага камітэта Спешыал Алімпікса, яны гавораць: "Дай мне магчымасць перамагчы. Але калі я не змагу, то няхай я буду смелым у гэтай спробе".

Даць ім шанц перамагчы — наша задача!

Наш адрас: Беларускі камітэт Спешыал Алімпікс. Рэспубліка Беларусь, 220010, г. Мінск, плошча Незалежнасці, дом 9, пакой 309, тэл.20-11-86. Наш разліковы рахунак 1141411 у гарадской дырэкцыі Белбізнесбанка ў г.Мінску, код 764. Валютны рахунак 701070329 у гарадской дырэкцыі Белбізнесбанка г.Мінска.

**Валянцін ШУХ, прэзідэнт Беларускага камітэта Спешыал Алімпікс.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА** Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА**

| Кошт | падпіскі | ____ рублёў. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ рублёў. | | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**Распачалася падпісная кампанія на чацвёрты квартал 1994 года. Для тых, хто прайшоў з "Чырвонай зменай" пэўны шлях і хто з цікавасцю вывучае спіс перыядычных выданняў, каб спыніцца на адным з іх, нагадваем падпісны індэкс нашай газеты — 63129. Падпісная цана — 12 тысяч рублёў на 3 месяцы. На беларускія выданні падпіска завершыцца 15 верасня, на расійскія — 10-га.**

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурны па выпуску Павел СІМАНАЎ.

### "Суперчэннэл"

#### Фестываль з паўднёвым акцэнтам

*У бразільскім горадзе Грамаду адкрыўся XXII Міжнародны кінафестываль.*

Сярод дзяржаў-удзельніц — Італія, Іспанія, Канада, Лаціна-амерыканскія краіны. Адзін з самых пачэсных гасцей фестывалю — "зоркавы" рэжысёр Мікеланджэла Антаніоні.

#### "Аўрора"... у Швецыі?

*Вядуцца перамовы аб маючым адбыцца адбуксіраванні "карабля рэвалюцыі" крэйсера "Аўрора" ў Швецыю для ўдзелу ў выставе, прысвечанай расійскай гісторыі.*

Прапанова аб гэтым паступіла з расійскага боку.

### "Уорлднэт"

#### З улікам нацыянальных інтарэсаў...

*У Кітаі дазволена ствараць сумесныя з замежнымі партнёрамі прадпрыемствы ў галіне здабычы мінеральных рэсурсаў, у тым ліку золата.*

Як заявіў прадстаўнік урада, гэта рашэнне прынята з улікам нацыянальных інтарэсаў КНР. Аднак здабыча ўрана, вальфрама і рэдказямельных металаў для замежных прадпрымальнікаў па-ранейшаму забаронена.

#### Пацук – сябар рабаўніка

*З новым відам злачынстваў сутыкнулася ірландская паліцыя. Цяпер мясцовыя рабаўнікі карыстаюцца ў сваёй "чорнай справе" не зброяй, а... звычайнымі пацукамі.*

Пачасціліся выпадкі, калі рабаўнікі запускаюць у аблюбаваную кватэру гэтых жывёлін. Ім застаецца толькі пачакаць, калі напалоханая гаспадыня з крыкам пакіне сваю маёмасць на разрабаванне.

#### Хто выратуе прэзідэнта?

*Працягваецца расследаванне фінансавай дзейнасці цяперашняга прэзідэнта ЗША Клінтана ў часы ягонага губернатарства ў штаце Арканзас.*

Многія аглядальнікі лічаць, што гэта гісторыя можа "зацягнуць" Клінтана.

### "Еўраньюс"

#### З сівой даўніны...

*У цэнтральнай Нарвегіі знойдзена старажытнае захаванне вікінгаў, узрост якога — каля 13 стагоддзяў.*

Ужо знойдзены старажытны меч, шчыт і іншыя цікавыя для навукі рэчы. Захаванне налічвае каля 800 магілак.

#### Укол "у законе"

*Канстытуцыйны суд Германіі пастанавіў, што "эпізадычнае ўжыванне ў малых колькасцях" аднаго з наркатычных сродкаў — гашыша, — якое не наносіць шкоды трэцім асобам, закону не супярэчыць.*

Каменціруючы гэтае рашэнне, мясцовая прэса нагадвае, што ў мінулым годзе ў ФРГ загінула каля 1800 наркаманаў, многія з якіх пачыналі менавіта з гэтага наркотыка.

### "TV-5"

#### Недатыкальная Мадонна

*Суд Лос-Анжэлеса забараніў "фанату" амерыканскай спявачкі Мадонны Тоду Лорэнсу падыходзіць да яе бліжэй, чым на 100 ярдаў.*

Лорэнс "дастаў" Мадонну, сцвярджаючы, што ён — муж "зоркі".

## БІЗНЕС-КЛАС

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА

Тэл. 68-28-32

### Банк дапаможа вёсцы

Надзвычай цяжкая сітуацыя, якая склалася ў вёсцы з-за сёлетняй засухі, прымусіла ўрад Беларусі і Нацыянальны банк пайсці на неардынарныя меры. Гаспадаркам рэспублікі будзе аказана падтрымка ў стварэнні рэзерваў сезонных запасаў усіх відаў збожжа, масла, сухога малака, што зможа гарантаваць у будучым бесперабойнае забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання. Ужо сёння вёсцы выдзелена 2 трыльёны рублёў пад 100 працэнтаў гадавых. Аб гэтым паведаміў журналістам 8 жніўня старшыня праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Станіслаў Багданкевіч. Як падкрэсліў галоўны банкір рэспублікі, гэта робіцца ў значнай меры за кошт крэдытнай эмісіі, якая, безумоўна, прывядзе да некаторага зніжэння курса рубля. Але Нацбанк разлічвае, што яно будзе нязначным, таму што крэдыты накіраваны строга пад матэрыяльнае забеспячэнне, да таго ж іх выкарыстанне не будзе штомесячна правярацца. С.Багданкевіч заўважыў, што ўсе гэтыя сумы на 100 працэнтаў забяспечаны лёгка рэалізуемым таварам, а не ідуць на крэдыты пад страты калгасаў і саўгасаў.

Ва ўзнікшай сітуацыі "Белаграпрамбанку" дазволена плаціць вытворцам сельскагаспадарчай прадукцыі, не клапоцячыся аб тым, ёсць у іх грашовыя рэсурсы ці не. Гэта значыць, дапускаецца сітуацыя так званага дэбетавага сальда. Прычым, "Белаграпрамбанк", іншыя банкі спачатку выдаюць крэдыты за кошт уласных грашовых рэсурсаў, а ў далейшым Нацбанк без усякіх штрафаў і санкцый кампенсуе гэтым банкам выдадзеныя раней сродкі. Таму, падкрэсліў Станіслаў Багданкевіч, нідзе на месцах не павінна быць скаргаў, што нарыхтоўшчыкам або перапрацоўшчыкам не заплацілі за збожжа, масла, сухое малако, якія закладваюцца на захоўванне.

А што рабіць гаспадаркам, у якіх на рахунках пуста і няма магчымасці купіць гаручае, каб весці ўборачныя работы, наняць транспарт для дастаўкі ўраджаю да месца захоўвання? Нацбанк прадугледзеў і такую сітуацыю. Банкам дазволена выдаваць крэдыты вытворцам у лік сумы, накіраванай на стварэнне сезонных рэзерваў масла, сухога малака, збожжа і іншых прадуктаў.

### Свята лета і піва

Учора ў памяшканні Палаца мастацтва адбылося адкрыццё Міжнароднай выставы-кірмашу "Піва-94-Лета", якая арганізавана "АБІ-кампаніяй".

Выстава сабрала каля сарака ўдзельнікаў з Чэхіі, Польшчы, Венгрыі, Літвы, Расіі і Беларусі. Яна складаецца з некалькіх раздзелаў. Шырока прадстаўлены розныя гатункі піва і абсталяванне для яго вытворчасці. Да сваіх стэндаў запрасілі кампанія "Расійскае піва" — рэальны лідэр у вытворчасці міні-півавараль шасці мадыфікацый; сумеснае расійска-венгерскае прадпрыемства "Ратай", пастаўшчык абсталявання і сыравіны для півавараў і запасных частак; АТ "Вільняўс Таўрус" — вытворчасць піва і безалкагольных напіткаў з Літвы; АТ Эву Грацзец Кралова — традыцыйны чэшскі вытворца абсталявання для піўзаводаў. У выставе прымаюць удзел, безумоўна, і беларускія піўзаводы, адзін з іх — Магілёўскі завод напіткаў, які мае 120-гадовы вопыт у галіне півавараўня.

Не менш буйным раздзелам выставы-кірмашу — аддзел прадуктаў харчавання. Гэта галіна прадстаўлена прыватнай фірмай з Польшчы, якая спецыялізуецца на вытворчасці высокаперапрацаваных прадуктаў харчавання; польскім заводам "Варвін" — ён займаецца вытворчасцю він, дыпламаваных на многіх міжнародных выставах. Іншыя фірмы прадстаўляюць розныя гатункі кавы, чаю і вяршкоў для іх, кандытарскія вырабы.

Наведвальнікі выставы-кірмашу змогуць набыць тут і тавары народнага спажывання. Гэта абутак, біжутэрыя, значкі, медалі, эмаліраваны ды нержавеючы посуд, электратэхнічная арматура ды батарэі і шмат яшчэ чаго, патрэбнага ў кожным доме.

Эстрадныя і фальклорныя калектывы, музыка і тэатралізаваныя прадстаўленні, дэгустацыя розных гатункаў нямецкага піва — усё гэта надасць выставе атмасферу яркага свята, свята лета і піва.

Святлана КУЛІКОВА.

## ЭКАНОМІКА

# Праца на будучыню

□ Святлана БЕЛАЯ

*Згодна з данымі Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях за I паўгоддзе 1993 года, у Беларусі з 825 сумесных прадпрыемстваў амаль палову складалі беларуска-польскія, каля адной трэцяй — беларуска-нямецкія, і толькі 10 працэнтаў — беларуска-амерыканскія. Адно з іх — "Double Star International".*

З прадукцыяй гэтай фірмы беларускі пакупнік знаёмы ўжо два гады. У лістападзе 1992 года на базе цэха шакаладнай пліткі гомельскай фабрыкі "Спартак" пачаў выпускацца шакалад, у прыгожай упакоўцы "Park Avenue", які ні па свайму дызайну, ні па якасці не адрозніваецца ад амерыканскага.

Зараз, калі старая эканамічная сістэма ў краіне разбурана, а новая толькі ствараецца ў пакутах, прадпрыемствы, якія раней праз дзяржаву былі забяспечаныя ўсім неабходным, павінны шукаць сабе самі сыравіну, рынак збыту. І гэта разумеюць стваральнікі "Double Star International".

Нягледзячы на тое, што офіс шакаладнай кампаніі знаходзіцца ў цэнтры Манхэтэна, як ні дзіўна, тут адчуваецца беларуская атмасфера. Насценны каляндар "Магнаты Беларусі", традыцыйныя сувеніры з дрэва, беларускія газеты і часопісы, лісты з Беларусі... Заснавальнікі кампаніі Лявон Зяльдовіч і Марат Новікаў родам з Беларусі. Гэта, між іншым, і стала асноўным фактарам, чаму менавіта Беларусь выбралі яны для стварэння сумеснай вытворчасці, хаця былі прынадныя прапановы з Расіі, Украіны, Малдовы. Першапачатковы капітал сумеснай вытворчасці складаў паўмільёна даляраў. (Для параўнання: агульны аб'ём інвестыцыі амерыканскага капіталу ў Беларусі на першае паўгоддзе 1993 г. складаў 15 мільёнаў даляраў). Гэтыя ж амерыканцы згаджаліся рабіць пастаўку сыравіны, а таксама рабіць упакоўку. У сваю чаргу фабрыка адказвала за ўсю вытворчасць прадукцыі, разлічвала кошты, выдаткі, звязаныя з вытворчасцю прадукцыі, зарплатай, электраэнергіяй, амартызацыяй, складскімі памяшканнямі, адлічэннямі на прыбытак. Продаж прадукцыі і яе дастаўку да пакупніка брала на сябе кампанія. Гэта была рызыка з амерыканскага боку, бо ні дзяржава сваімі законамі, ні кіраўніцтва фабрыкі "Спартак", з якой яны падпісвалі дагавор, — ніхто не даваў гарантыі, што сумесная вытворчасць не будзе закрыта праз некалькі месяцаў. Не варта спыняцца на цяжкасцях і бюракратычных перашкодах, праз якія давялося прайсці найперш, чым цэх пачаў выдаваць прадукцыю. Нават калі ўжо было, здавалася б, усё наладжана: закуплена і прывезена сыравіна, а шакалад вось-вось мусіў сысці з канвеера, усё апынулася на мяжы зрыву, бо абгортка, якую ўзяўся зрабіць адзін беларускі прадпрымальнік, адсутнічала. Мусілі ў тэрміновым парадку друкаваць абгортку ў Амерыцы. Дробязь, якая ледзь не сарвала вытворчасць, была, на жаль, не адзінай. І гэтага, дарэчы, дастаткова, каб любы амерыканскі прадпрымальнік закончыў усялякі бізнес у Беларусі. Недарэмна ж у 1993 годзе гэтая амерыканская фірма была адзінай кампаніяй, што працавала з нашай краінай.

— Мы задаволены нашым супрацоўніцтвам з фабрыкай, — кажа тым не менш партнёр Лявона Зяльдовіча Марк Бліндэрман. — Я быў здзіўлены, што такая складаная структура, як фабрыка, змагла так хутка перайсці на сучасныя міжнародныя разлікі, на наш метад. Зараз ідзе поўны ўлік рэсурсаў і грошай. Калі раней фабрыка магла наняць 5 чалавек, з якіх 4 сядзелі без працы, то зараз такога няма. Людзі зразумелі новую сістэму і пагадзіліся з ёй.

— Сумесная вытворчасць, — працягвае М.Бліндэрман, — працуе ўжо год. Мы завозім у Беларусь усё неабходнае для вытворчасці: какава-парашок з Інданезіі, цукар з Бразіліі, замяняльнік какава-масла з Бельгіі, пахучыя дабаўкі з іншых краін свету. Працуем з 10 рознымі пастаўшчыкамі: і на Захадзе, і ў Беларусі. Нашы партнёры завозяць не толькі сыравіну, але і паперу для абгорткі, фальгу, фарбу для друку. Усё павінна працаваць, як гадзіннік, сінхронна. Раней у наладжванні і функцыянiраванні агульнага эканамічна-прамысловага механізма дапамагала дзяржава. Сёння гэта ўсе прадпрыемствы мусяць рабіць самі. Многія эканамічныя сувязі парушаны, што стварае нямала складанасцей, якія і пужаюць замежных прадпрымальнікаў. Амерыканскія бізнесмены разважаюць прыблізна так: мы можам пабудаваць у Беларусі фабрыку, можам нешта замаўляць у іншых краінах. Але мы не можам прывозіць усё з Амерыкі, нават дробязь. Бесперапыннасць паставак, надзейнасць партнёраў — гэта галоўныя фактары, на якіх пабудаваны амерыканскі бізнес.

— Сёння фірма штомесячна закупляе толькі сыравіны на суму 350—400 тысяч даляраў. Абарот вытворчасці разам з шакаладнай памадкай складае 1 мільярд рублёў. Акрамя шакаладных плітак хутка будзе выпускацца шакаладныя пліткі з дабаўкамі: пячэннем, кукурузай, арэхамі. Плануецца наладзіць выпуск шакаладных "батончыкаў" і цукерак "Асарці".

"Double Star International", акрамя вытворчасці, займаецца і дабрачыннай, спонсарскай дзейнасцю. Напрыклад, ахвяраванні паступілі на рахунак беларускага дзяржаўнага цырка, мінскага грамадска-асветнага клуба "Спадчына", рэлігійнай абшчыны "Крышна".

— Зараз вытворчасць, — гаворыць генеральны дырэктар Марат Новікаў, — выпускае 300—350 тон шакаладных плітак у месяц. Таксама мы выпускаем штомесячна 100 тон шакаладнай глазуры, якая разыходзіцца па кандытарскіх цэхах усёй рэспублікі. Мы можам падвоіць вытворчасць шакаладу ў 2 разы. Уся справа ў пакупніцкім попыце. Мы жадаем прыцягнуць эканамічны патэнцыял як унутры Беларусі, так і за мяжой. Гэта карысна для ўсіх. І для фабрыкі "Спартак", якой супольная вытворчасць пастаўляе шакаладную аснову, і для людзей, якія працуюць на фабрыцы, і для краіны, бо ствараецца прадукт, увозіцца валюта. Па сусветных стандартах шакалад недарагі і мае добрую якасць.

Мы на прыкладзе сваёй вытворчасці спрабуем разбіць стэрэатыпы, пераканаць іншых, што мець бізнес з Беларуссю, як краінай былога СССР, гэта нармальная справа, якая не вядзе да банкруцтва. У сваіх сустрэчах з прадстаўнікамі амерыканскага бізнесу мы тлумачым, што Беларусь — гэта не Расія, і не Украіна. Беларусь больш прыбліжана да Еўропы, і яе людзі хутчэй зразумеюць канцэпцыю бізнесу. Сёння гэта краіна, пераважна з добра падрыхтаванымі спецыялістамі па маркетынгу. Зараз, напрыклад, я працую з дзяўчатамі з мінскага офіса практычна на тым жа ўзроўні, што і з амерыканскімі партнёрамі. Для многіх амерыканскіх бізнесменаў мы — своеасаблівы прыклад, які пераконвае, што з Беларуссю можна мець бізнес. Мы робім шакаладныя пліткі, якія ў 3—4 разы танней, чым шакалад, выраблены ў краінах трэцяга свету. І ў той жа Мексіцы, Бразіліі не могуць зрабіць шакалад такой якасці, бо ў Беларусі ёсць кваліфікаваныя кадры, новае абсталяванне. Калі амерыканскі бізнесмен пабачыць, што ён мае гарантыю зрабіць прыбыль тут у Беларусі, ён будзе рабіць гэта. Але гэта гарантыя павінна быць, таму дзяржава павінна дапамагаць супольным прадпрыемствам і вытворчасцям. З эканамічнага пункту гледжання Беларусь, як незалежная краіна, мае мажлівасці паставіць сябе і каціравацца на сусветным рынку. І Беларусь будзе моцнай эканамічнай краінай, калі яе ўнутраная і знешняя палітыка не будзе перашкаджаць бізнесу. Дзяржава павінна прыцягваць сваіх людзей, якія сёння жывуць за яе межамі. Беларусы: адны ведамі, другія дарадамі, трэція грашыма — мусяць дапамагчы адбудаваць сваю Бацькаўшчыну. Толькі пры такой умове ўсе мы разам можам зрабіць краіну з моцнай эканамічнай асновай. Гэта і ёсць адна з прычын, чаму выхадцы з Беларусі Лявон Зяльдовіч і Марат Новікаў заклалі бізнес у Беларусі, чаму яны працуюць на Бацькаўшчыне. Яны працуюць на будучыню.

■

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

### І ў "Вішнёўцы" гадуюць бадмінтаністаў

Что б там ні казалі, а шчасце нашых дзяцей усё ж залежыць ад нас, дарослых. Дарэмна наракаюць некаторыя маці, што ў вясковай дзятвы стартавых шанцаў менш. Не верце! Не ў шанцах справа — у элементарнай увазе да таго, што мы звыкла называем душой дзіцяці. І ўжо дакладна не вёска тут вінаватая.

У чарговы раз пераканаўся ў гэтым, наведаўшы калгас "Вішнёўка", што ў трыццаці мінутах язды ад Мінска. Знешне калгас як калгас. Толькі адрозніваецца ад астатніх і цэнтральнай сядзібай з цудоўнымі домікамі, і новабудоўлямі дзіцячага садка. Стараюцца тут дарослыя для сваіх дзяцей.

Таму і летнія канікулы для вішнёўскай дзятвы нават у цяперашні цяжкі час застануцца парой вясёлай. У адзін з цёплых чэрвеньскіх дзён на уік-энд запрасілі ў госці юных вішнёўскіх бадмінтаністаў брэсцкія равеснікі. Заадно паабяцалі сапернікам і таварыскую сустрэчу арганізаваць.

Магчымасць, самі разумееце, для перыферыйнай каманды унікальная. Таму і вырашылі не адмаўляцца і сумясціць прыемнае з карысным. Сустрэча сустрэчай, а наведаць Брэст з яго старажытнай гісторыяй лішні раз не пашкодзіць.

І наша трэнер мясцовай каманды Валянціна Хмыз пачала хадайнічаць перад мясцовымі уладамі аб арганізацыі гэтай паездкі. Вынік не прымусіў сябе доўга чакаць, атрымалі школьнікі са сваім трэнерам "поўны сервіс": і камфартабельны аўтобус, і лепшыя нумары ў шыкоўнай гасцініцы горада над Бугам, і поўны пансіён, уключаючы паслугі экскурсавода.

Тут і дарослым было б чаму пазайздросціць. Для некаторых Брэст — станцыя перасадкі ў шоп-туры "за злотымі". Ці мог хто з нас дазволіць сабе выйсці за межы беднага "камерцыйнага пратакола", каб так, як іх дзеці, проста пагуляць па маляўнічых бульварах заходняга фарпоста Беларусі, ушанаваць памяць загінуўшых абаронцаў крэпасці-героя, пакланіцца раскопкам сярэдневяковага Бярэсця.

Члена вішнёўскага прафкама М.Іванову запрасілі ў паездку дапамагчы трэнеру. Марыя Аляксандраўна ў калгасе не навічок, а ў падобнай ролі — упершыню. У гутарцы са мной паведала:"У гісторыі роднага калгаса такіх паездак для дарослых не прыпомню. Зайздрошчу я нашым дзецям".

І ёсць чаму зайздросціць. Добра памятаюць юныя вішнёўскія бадмінтаністы Сяргей Ліпніцкі, Алег Міхаган экскурсійна-бадмінтонныя туры ў замежны Каўнас і ў недалёкі Гомель. Гэтая сустрэча ў Брэсце закончылася ўпэўненай нічыёй. Больш вопытныя брастаўчане і нашы вішнёўцы аказаліся яўна на роўных. А вось у галоўным вяскоўцы далі фору: з'явілася яшчэ адно ў іх жыцці адкрыццё — старажытны Брэст, невядомы дагэтуль астравок роднай Беларусі. Адкрылі яны яго для сябе ўпершыню і, спадзяюся, надоўга. Яшчэ пра адно варта ўспомніць. Вярнуўшыся дадому, васьмікласнік Аляксей Вітушка сваім сябрам шчыра прызнаўся: "Хачу стаць прафесіянальным спартсменам". І гэта не дзіцячыя мары. Шчасце таму, хто знойдзе гэту "зорку" такім жа юным, як гэты хлапчук. Пакуль ты малады, поўны сіл і энергіі, то здольны сказаць гэтаму свету ўласнае "я", заяўляючы ўсур'ёз пра свае намеры.

Але вернемся зноў да падзеі, што прынесла ўсім яе ўдзельнікам яркія ўражанні, іх магло б і не быць, калі б не дапамога, што аказалі юным спартсменам мясцовы калгас і яго старшыня М.Лапуць. Сваю думку журналісту Мікалай Сцяпанавіч выказаў вельмі проста: "У нашых хлопчыкаў і дзяўчынак наперадзе нялёгкая будучыня. І пакуль у іх няма жыццёвых праблем, будзем і надалей дарыць ім радасць".

Аляксей ЛЕБЕДЗЕЎ.

■

Работы мастака з Гомеля Анатоля ШЧЫТОВА незвычайныя. Гэта разныя драўляныя абразы ў арыгінальных апраўах. Выстаўка яго работ экспанавалася ў Італіі, Аўстрыі, Іспаніі. Многія творы ШЧЫТОВА знаходзяцца ў прыватных калекцыях за мяжой.

Цяпер Анатоль разам з сынам Філіпам, які распрацоўвае арыгінальныя малюнкі рам для карцін бацькі і іх выразае, рыхтуюць выстаўку сваіх твораў для экспазіцыі ў ЗША.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ.

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ

### Пагуляем на ракетных пляцоўках?

З кожным днём усё больш непазнавальна змяняецца выгляд ракетнай базы пад Кобрынам. Клапатлівымі намаганнямі хрысціянскай дабрачыннай місіі "Эмануіл" яна ператвараецца ў дзіцячы духоўна-аздараўленчы цэнтр.

Цікава, што спачатку місіянеры адмаўляліся ад прапаноў Міністэрства абароны выкупіць тэрыторыю і будынкі базы. Бо, на іх здзіўленне, вайсковыя збудаванні аказаліся ў вельмі занядбалым стане. І зараз місіянеры вымушаны рабіць іх капітальную рэканструкцыю і нанава падрыхтоўваць цепла-, вода-, газа-, электразабеспячэнне і пракладваць каналізацыю. А ў якасці аплаты місія ўзводзіць для сем'яў вайскоўцаў дзевяць двухкватэрных катэджаў, якія будуць гатовы к канцу верасня. Цікава адзначыць і тое, што будаваць дзіцячы цэнтр дапамагаюць добраахвотнікі з Германіі, Амерыкі і нават з Афрыкі. Зараз аздараўленчы лагер прымае другую групу дзяцей (60 чалавек). Але яго афіцыйнае адкрыццё адбудзецца наступным летам, на працягу якога адпачыць у лагеры змогуць каля 900 дзяцей. Палова з іх — пацярпеўшыя ад чарнобыльскай аварыі. Акрамя аздараўлення дзяцей, місія будзе займацца і іх духоўным выхаваннем, знаёміць з хрысціянскімі каштоўнасцямі. На жаль, Брэсцкі аблвыканкам адмовіўся зрабіць крэдыты для місіі льготнымі. Тэхнічнымі парадамі і абсталяваннем беларускім місіянерам дапамагае германская місія "Логас Інтэрнешнл". Амерыканскія і германскія цэрквы даслалі ахвяраванні ў суме 11 тысяч даляраў і 25 тысяч марак. Увесь жа праект дзіцячага цэнтра ацэньваецца ў 360 тысяч даляраў. Зараз у яго будаўніцтва місія ўклала больш за 120 тысяч даляраў.

Наталля ВАЛАКІДА.

### Кніга, што праламала лёд

Асацыяцыя бацькоў дзяцей-інвалідаў існуе трэці год, апошнім часам — ужо на рэспубліканскім узроўні. У адным толькі Мінску сем'яў з хворымі дзецьмі — больш за тысячу. А ў рэспубліцы — больш за 20 тысяч. Недзе 70 працэнтаў такіх дзяцей пры належным лячэнні маглі б пазбавіцца сваёй інваліднасці, але зрабіць гэта сіламі толькі іхніх бацькоў немагчыма. Што й казаць, калі ў Мінску ёсць адзіны дзіцячы садок на дзесяць месцаў для дзяцей, хворых на цэрабральны параліч. Куды толькі не звярталіся бацькі — члены Асацыяцыі — усюды адно і тое ж: абяцаць — абяцаюць, але дапамагаць не спяшаюцца. І вось, здаецца, "лёд крануўся" — тыражом у дзве тысячы экзэмпляраў выйшла кніга-дапаможнік нямецкага аўтара "Як дапамагчы дзіцяці, хвораму на цэрабральны параліч", дзе падрабязна тлумачыцца, як выхоўваць такое дзіця ад нараджэння да школы (прэзентацыя кнігі адбылася 9 жніўня ў памяшканні Дома друку). Да гэтага часу многія бацькі былі вымушаны літаральна блукаць у цемры, даведваючыся пра ўсё ледзь ці не на ўласным вопыце. Выданне кнігі было цалкам дабрачынным, але рэалізоўваць яе мяркуецца па дзве маркі за экземпляр — з мэтай сабраць грошы на выданне іншых падобных кніжак. Неўзабаве Асацыяцыя бацькоў дзяцей-інвалідаў збіраецца стварыць свой друкарскі цэнтр, што будзе выдаваць разнастайную літаратуру, патрэбную бацькам хворых дзяцей.

І ўсё ж ніякая дапамога не будзе ім лішняй. Калі ласка, прыміце да ўвагі гэты разліковы рахунак: 2609144, код 334. Асацыяцыя бацькоў дзяцей-івалідаў, валютны рахунак № 001070664 — у Мінскім акцыянерна-камерцыйным гарадскім упраўленні Белпрамбудбанка.

Ірына ЗАВАДСКАЯ.

■

## НАДЗЁННАЕ

# І дзецям трэба адпачыць

□ Юлія ЛУЦАЙКОВІЧ

*Дзе і якім чынам адпачываюць сёлета дзеці? З гэтым пытаннем я звярнулася да вядучага інспектара ўпраўлення арганізацыі і каардынацыі выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Л.С.БАРЫСІК.*

— Права дзяцей на адпачынак і разумна арганізаваны вольны час павінна ў поўнай меры рэалізавацца ў перыяд летніх канікулаў. Новыя напрамкі ў арганізацыі гэтага былі распрацаваны на рэспубліканскім семінары, што праходзіў 25—27 красавіка ў Мінску. На ім былі закрануты пытанні арганізацыі і зместу работы з дзецьмі, пытанні аздараўлення і сацыяльнай абароненасці дзяцінства, пытанні стварэння ўмоў для творчага, разумовага і фізічнага развіцця дзіцяці, фарміравання нацыянальнай свядомасці і іншыя.

Паводле планаў, зацверджаных Федэрацыяй прафсаюзаў, за лета павінны прайсці аздараўленне 364,9 тысячы дзяцей і падлеткаў.

Існуюць два асноўныя тыпы летнікаў. Першы — стацыянарныя аздараўленчыя летнікі. Яны належаць прадпрыемствам і прафсаюзным камітэтам арганізацый. Заўважу, што ў сістэме адукацыі такіх няма. І другі тып — дзённага знаходжання, што працуюць на базе школ і пазашкольных устаноў. Сёлета ў рэспубліцы было адкрыта прыкладна 1800 летнікаў дзённага і кругласутачнага знаходжання. Там адпачывала да 93 тысяч дзяцей і падлеткаў. Гэта лічба атрымалася ніжэй за тую, што планавалі. Прычына тая ж — фінансаванне. Дарэчы, фінансаванне вядзецца за сродкі сацыяльнага страхавання, якія ў адпаведнасці з Пагадненнем аб арганізацыі аздараўлення працоўных і дзяцей у 1994 годзе паміж Федэрацыяй прафсаюзаў і ўрадам выдзяляюцца і размяркоўваюцца прафсаюзамі і часткова з мясцовых бюджэтаў. Канешне, шмат цяжкасцей, і ў гэтым годзе асабліва. Добра, што летнікі дзённага знаходжання наогул пачалі функцыяніраваць у самым пачатку сезона. У сувязі з недахопам сродкаў, выдзяляемых з фонду сацыяльнага страхавання, толькі па Брэсцкай вобласці 210 з іх працавалі без арганізацыі харчавання. У Гродзенскай такіх сродкаў не атрымалі і, як вынік, не пачалі работу летнікі пры гарадскіх школах, у якіх маглі б адпачыць каля 6 тысяч школьнікаў.

Забяспечыць новы змест і варыяцыйнасць. летняга адпачынку могуць толькі добра падрыхтаваныя педагагічныя кадры. У гэтых мэтах органы адукацыі і педагагічныя навучальныя ўстановы выкарыстоўваюць увесь арсенал наяўных форм: спецыяльныя курсы, лагерныя зборы, семінары, семінары-практыкумы. У бягучым годзе, як і ў мінулым, добра зарэкамендавалі сябе профільныя і праграмна-профільныя летнікі. Як паказала практыка, яны даволі папулярныя сярод настаўнікаў, бацькоў, вучняў. Гэта летнікі экалагічныя, мастацкія, тэхнічныя, турысцка-краязнаўчыя, камп'ютэрныя. Аздараўленне — гэта вельмі добра, але пажадана, каб у час канікулаў дзеці набывалі яшчэ і нейкае майстэрства. Мелі магчымасць развіваць свае здольнасці. Цудоўна, калі дзяўчынка можа штонебудзь звязаць, вышыць, упрыгожыць кватэру вырабамі з саломкі і іншых прыродных матэрыялаў.

1500 дзяцей знаходзяцца ў летніках на базе Рэспубіканскага экалагічнага цэнтра тэхнічнай творчасці, Рэспубліканскага цэнтра дзіцячага і юнацкага турызму і экскурсій. У гэтым годзе працуюць летнікі "Эколаг", "Спадчына", "Пошук". Апошні — краязнаўча-патрыятычнага характару. Яны садзейнічаюць развіццю здольнасцей рознай накіраванасці, развіваюць маральныя і інтэлектуальныя якасці, рыхтуюць сённяшніх дзяцей да дарослага жыцця.

## ДАЗВОЛЬЦЕ СПЫТАЦЬ

### Усе раяць, а хто дапаможа?

У 1986 годзе, працуючы ў Іванаўскай "Сельгасхіміі" вадзіцелем, я быў накіраваны ў Брагінскі раён для ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі, канкрэтова — займаўся дэзактывацыяй глебы. У 1987 годзе з "Сельгасхіміі" я звольніўся. І калі пайшла гаворка пра ліквідатараў, я сябе да іх не адносіў. Пазней, калі вадзіцелі, якія працавалі са мной, сталі атрымліваць пасведчанні ліквідатараў, я звярнуўся ў "Сельгасхімію" з просьбай аб атрыманні гэткага ж дакумента. Вось тут і пачаліся мае блуканні па пакутах. У бухгалтэрыі не захавалася то аднаго дакумента, то другога. Але ўсё-ткі ўрэшце сабраў даведкі і фотаздымак і адвёз уласнаручна ў Брэст. Пасля гэтага неаднаразова тэлефанаваў у Брэст — хацеў даведацца пра ход спраў. Мне адказвалі: ідзе праверка дакументаў. Праз паўгода працаўнікі "Сельгасхіміі", што былі ў Чарнобылі разам са мной, атрымалі пасведчанні, я ж яго не атрымаў. Пазваніў у аддзел кадраў, кажуць, згубіўся фотаздымак. Зрабіў новае фота і адвёз у Брэст. Параілі патэлефанаваць праз тыдзень, усё, маўляў, наладзіцца. Набіраю нумар і што ж чую ў адказ: збірайце ізноў дакументы. Увогуле замкнёнае кола атрымліваецца. Усе мне быццам бы спачуваюць, але нічым дапамагчы не могуць. Крыўдна, бо ведаю столькі асоб, якія і блізка ля зоны не былі, але карыстаюцца ўсімі льготамі. А льготы, пагадзіцеся, немалыя і за столькі гадоў сабралася нядробная сума.

Крыўдна яшчэ і тое, што, калі нас пасылалі ў гэтыя камандзіроўкі, некаторыя ўвільвалі ад іх рознымі шляхамі, але сёння ўсё-ткі карыстаюцца льготамі. Я ж, чэсна адбыўшы там тры тэрміны, сёння павінен бегаць, уніжацца, ледзь ці не вымольваць гэтае пасведчанне.

Так, страшэнная бяда Чарнобыль. Не дай Бог ёй паўтарыцца, але калі яна адбылася, дык давайце аддамо належнае тым, хто прымаў удзел у ліквідацыі наступстваў аварыі.

Калі ласка, не адкладвайце ў доўгую скрынку мой ліст — дапамажыце. З павагай

Юры ДОУГЕР, Іванаўскі раён, вёска Холігава.

### Неабходна ведаць беларускую мову

*На конкурснай аснове і шляхам тэсціравання будзе набірацца штат тэхнічнага абслугоўвання ў адміністрацыю прэзідэнта.*

Толькі невялікі працэнт машыністак, сценаграфістак, перакладчыкаў, якія раней працавалі ў апараце Савета Міністраў, застанецца працаваць пры "новай уладзе". Галоўным патрабаваннем, апрача прафесійных якасцей, для многіх будзе веданне беларускай мовы. Асабліва гэта тычыцца "каралеў прыёмных", большасць з якіх дагэтуль не лічылі неабходным займацца яе вывучэннем.

### ТБ: змена кіраўніцтва

*Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка 8 жніўня прадставіў супрацоўнікам нацыянальнай тэлерадыёкампаніі новага кіраўніка.*

Ім стаў Рыгор Кісель, які раней працаваў галоўным рэдактарам газеты "Могилевские ведомости", якая выказвала падтрымку будучаму прэзідэнту яшчэ ў перыяд, калі вядомая парламенцкая камісія па барацьбе з карупцыяй разам са сваім кіраўніком трапіла ў няміласць.

БЕЛІНФАРМ.

### Памяці безыменных

*У 1943 годзе нямецка-фашысцкія захопнікі ў акупіраванай Оршы знішчылі апошнюю з 5000 палонных групу савецкіх воінаў.*

І вось праз 50 гадоў на месцы растрэлу — на ўскраіне вуліцы Пагранічнай — адкрыты помнік.

З гэтай нагоды адбыўся мітынг, на якім прысутнічалі прадстаўнікі рабочых калектываў, арганізацый і ўстаноў, грамадскасці горада.

### Салдацкае кафэ

*У адной з воінскіх часцей Аршанскага гарнізона адкрылася салдацкае кафэ. Тут салдаты, афіцэры і прапаршчыкі ў вольны ад службы час могуць правесці свой адпачынак, паслухаць музыку.*

У кафэ праводзяцца сустрэчы салдат і камандзіраў з роднымі і блізкімі, якія прыязджаюць у госці да воінаў.

Ісак КОГАН.

Кур'ер "ЧЗ"

### Надта многа вас, жанатых, развялося!

*У 1993 годзе ў Мінску нарадзілася 17464 чалавекі, памерла 13959, зарэгістравала шлюб 13404, скасавала шлюб 9311.*

Суадносіны колькасці шлюбаў і разводаў непрыемна ўражваюць. Калі параўнаць лічбы з 91—93 гадамі, то яны адлюстроўваюць павелічэнне колькасці разводаў разам з рэзкім памяншэннем жадаючых жаніцца ці выходзіць замуж. (Для параўнання: год таму яны складалі шаснаццаць тысяч).

Сярод прычын падобнага становішча вылучаюцца:

— Адсутнасць стабільнага выхаваўчага працэсу па дадзеным пытанні;

— Праблемы, звязаныя з адсутнасцю ўласнага жылля і працы;

— Недахоп грашовых сродкаў для ўтрымання сям'і.

З падзеннем колькасці шлюбаў напрамую звязаны паказчык нараджальнасці. Ужо з 1993 года, калі ён складаў 17462 чалавекі пры смяротнасці 13 959, прырост насельніцтва практычна не адчуваецца. Становішча бачыцца нам пагражальным, не за гарамі той час, калі колькасць народжаных і памерлых практычна супадзе.

Асноўныя прычыны, па якіх пакідаюць "гэты" свет не па сваёй ахвоце:

— Экалогія. Вынікі Чарнобыльскай катастрофы.

— Адсутнасць кваліфікаванай медыцынскай дапамогі, дыягнаставання і лекаў.

Вольга КАСЦЮКЕВІЧ, Паліна ПАШКОЎСКАЯ.

